Цана № 25 грош. Змагайся як мага — зможаш.

# ПОКЛІЧ

Падпісная плата
з перасылкаю.
на 1 мес. . . . 50 грош.
на 3 мес. 1 зл. 50 грош.
на 1 год 6 зл.

Адрэс рэдакцыі і адміністр.:
Вільня, Новасьвецкая 10-6.

Рэдакцыя адчынена што дня ад 11 да 1 г. апаача сьвят.

ДВУТЫДНЁВІК

Орган Беларускай Партыі Соцыялістаў-Рэвалюцыянэрау Заходняй Беларусі.

№ 2 | Вільня, панядзелак 12-га сьнежня 1927 г. | Год 1

**№ 1 „Покліч у“ сканфіскаваны па загаду адміністрацыйнае ўлады за артыкул „На шляху да самаарганізацыі“.**



## На раздарожжы.

Раскол у пануючай Камуністычнай Партыі ня гледзячы на ўсе вернападаніцкія рэзалюцыі акружных камітэтаў існуе далей, захоплівае ўсе большыя кругі партыйнае масы, дыскрэдытуе ў вачох несьвядомых яшчэ элементаў вёскі і гораду партыйную верхавіну і штодзень раскрывае ўва ўсёй сваей непрыгляднай прыгожасьці маральны дый ідэйны расклад пануючых колаў.

Пасьля выключэньня Троцкага і Зіноўева з партыі апошнія ня спынілі сваёй дзейнасьці, не зважаючы на перасьцярогі сваіх быўшых таварышоў.

А перасьцярогі былі вельмі нядвузначныя. Гэтак, сябра ЦК партыі Томскі на пытаньне, што будзе далей калі апазыцыя ня спыніць сваёй дзейнасьці, адказаў: ветліва папросім „прысесьці“, бо пры дыктатуры пралетарыяту могуць быць і дзьве, і тры партыі, але пры неабходнай умове: адна з іх на чале ўлады, а іншыя, што спрабуюць змагацца ў астрозе“. У той самы дзень 13 лістапада сакратар маскоўскага Камітэту Угланаў казаў між іншым, што, „як некалі партыя пераступіла праз такую буйную фігуру, як Плеханаў — заснавацель рэвалюцыйнага марксызму ў Расеі, як толькі ён пашоў па шляху сацыял-шавінізму, так і зараз партыя пераступіць праз адышоўшых ад ленінізму Троцкага, Зіноўева, Каменева і інш“.

Усе гэта сьведчыць аб тым, што сталінскі цэнтр не на жарты перапалоханы праявамі апазіцыі ў калісь „сталёвых ленінскіх радох“, а найбольш перапалоханы ён тым, што спрэчка паміж Выканаўчым камітэтам і апазіцыяй не вядзецца ўжо ўнутры партыі, не абмежавана рамкамі партыйнае дысцыпліны але вынясена на вуліцу, ў шырокія масы работнікаў і сялян. Гэты самы Угланаў гаворыць, што „абвостраная барацьба партыі з апазіцыяй выклікала некаторае узмацненьне актыўнасьці не савецкіх элементаў, пачаліся гутаркі ў трамваях і тэатрах, на фабрыках і г. д.“ І як быццам у адказ на гэта апазыцыя распаўсюджвае адозву, у якой выразна гаворыцца, што прычынай сьмерці Іоффе зьяўляюцца сталінцы, якія папросту забілі яго, як апазіцыянэра.

Апазіцыя, як відаць, не спалохалася запужваньня і далей вядзе барацьбу за свае тэзісы, ўжо ня ў радох партыі але сярод працоўнае масы.

У чым-жа галоўныя разыходжаньні паміж Сталіным і Троцкім? Гдзе цэнтр цягасьці спрэчкі? Хто той таран *), які разьбіў ленінскую партыю на дзьве варожыя партыі?

---

У рэзультаце 5 гадовае працы камуністычнае партыі на вёсцы ў кірунку соцыялізацыі яе, назіраецца ўзрост кулацкіх элементаў коштам серадняцтва, якое „вымываецца“ гэткім чынам, што за кошт серадняка узмацняецца з аднаго боку кулацкая верхавіна вёскі, а з другога боку — ідзе пролетарызацыя яе г. ё. абядненьне слабейшае часткі серадняцтва. І вось, замест, каб уцягнуць селяніна серадняка ў арбіту соцыялістычнага будаўніцтва вёскі, камуністычная партыя фактычна гэтага серадняка ператварае альбо на кулака альбо на бедняка, паглыбляючы гэтым самым соцыяльны крызіс савецкай вёскі і гэтым самым

---

* Таран — старажытная прылада. ужываная ў вайсковай тэхніце сярэдніх вякоў дзеля разбурэньня крэпасьцяў.

падпілоўваючы той сук, на якім сама яна сядзіць.

Амаль падобны працэс адбываецца ў сувязі з зямельным каапераваньнем вёскі. Малазямельнікі, змушаныя эканамічнымі абставінамі ісьці ў камуну, паўстаўшую ў пераважнай большасьці выпадкаў не з дабравольна злучаных у арцель малых гаспадарак, але з нераспарцеляваных маёнткаў абшарнікаў, аддаюць свае гаспадаркі ў арэнду багацейшым элемэнтам вёскі.

Дзякуючы гэтаму рост кулацкае верхавіны вёскі ідзе „амерыканскім тэмпам“ і адначасна з гэткім самым тэмпам ідзе развал сярэдзіны.

І вось апазіцыя ў першую чаргу паказвае кулацкі ўхіл партыі, даказвае фактамі і лічбамі узрост сялянскае беднаты, якая ня гледзячы на тое, што працантова быццам і паменшваецца, фактычна і відавочна павялічваецца. Урадуючыя камуністы, якія указваюць на гэтае паменшаньне бядняцкіх гаспадарак, забываюць аб аднэй характэрнай праяве агульнага абядненьня гэта — **масавай эміграцыі** вёскі ў горад. А аб існаваньні гэтае масавае эміграцыі, яны самі гавораць.

---

Гэткім чынам мы бачымо што на дзеле ідзе не сацыялізацыя вёскі г. зн. не такі працэс, які прывёў бы вёску да эканамічнае роўнасьці, але наадварот ідзе працэс капіталізацыі яе, ідзе працэс узросту двух сацыяльна-рожных групаў: з аднаго боку кулака — з другога ўзрост эмігруючага бедняка. Характэрна тое, што падобны працэс адбываецца на вёсцы і ў буржуазных краінах і ласьне прысутнасьць гэтых двух элемэнтаў з'яўляецца адзнакай кожнае буржуазнае і капіталістычнае краіны. Распластаваньне вёскі гэта альфа і омега капіталістычнага ладу.

Савецкая вёска, перажываючы сацыяльны крызіс, у 10-я ўгодкі кастрычнікавае рэвалюцыі не здабыта камуністычнай партыяй. Партыя не змагла вырашыць праблему яе сацыялізацыі і разгорнуты Леніным каапэрацыйны плян не праводзіцца ў жыцьцё. Стаўка на серадняка компартыі выразілася ў стаўку на кулака, апошні выцягвае найбольш карысьці з пролетарызацыі вёскі, канцэнтруе ў сваіх руках большую частку вясковага багацьця, больш таго, з'яўляецца цэнтральнай фігурай вёскі ў землякарыстаньні, ня гледзячы на ўсе запярэчаньні партыі аб вернасьці серадняцтву.

Партыя, абвінавачваючы апазыцыю ў спробе сьцягнуць яе з ленінскага шляху, на дзеле даўно з яго сама зышла і далей коціцца па рэйкак кулацтва. Куды яны партыю прывядуць—ня ведама, але спыніцца па дарозе яна ўжо ня можа. Апазыцыя ў час заўважыла кулацкі нахіл яе шляху і выключэньне яе з партыі толькі павялічыць яе ўплывы сярод працоўнае масы.

Чаму гэта так выйшла? Чаму сацыялістычнае будаўніцтва савецкае вёскі выразілася ў будаўніцтва капіталістычнае? Гдзе памылка, якая прывяла комуністычную партыю ў ідэйны тупік?

Па нашае думцы памылка тут у аснаўным погядзе на правядзеньне ў жыцьцё кааперацызацыі землякарыстаньня.

Камуністычная партыя ў аснову сацыялістычнага будаўніцтва кладзе саўхоз *), памінуўшы зусім той аснаўны факт, што пасьпяховасьць гэтага працэсу залежыць у значнай меры ад эканамічнае роўнасьці ці няроўнасьці сяброў копэрацыі. Прызнаючы на словах серадняцкую гаспадарку за нармальную дзеля кооперацызацыі яе, стаўшы гэтым чынам на пункт гледжаньня тэорыі сацыялізацыі зямлі, кампартыя адначасна адкідвае, як сацыял-рэфармізм, пераходную ступень да вышэйшае ступені землякарыстаньня камуны — надзел зямлі сярод малазямельных і батракоў да сацыяльнае нормы. Анахранізм гэты і прывёў компартыю ад шляху сацыялізму да шляху дробнага капіталізму.

Праз сацыялізацыю да кооперацыі землякарыстаньня—вось правідловы, сацыялістычны шлях. Усялякія іншыя спробы вырашыць зямельнае пытаньне ў рамках навуковага сацыялізму прывядзе бязумоўна да палітычнага банкруцтва, да развалу сацыялістычнае будовы. Гэткі развал гразіць цяпер і ўсяму дзяржаўнаму ладу СССР., бо ня вырашыць зямельнага пытаньня, г. ё. не вырашыць галоўнага заданьня кастрычнікавае рэвалюцыі.

У дзесятыя ўгодкі яе бальшавізм стаіць перад разьбітым ім самым карытам.

Працоўныя масы СССР, ў тым ліку і беларускія ня вераць ужо абяцанкам направіць тыя вялізарныя дзюры ў народнай гаспадарцы, якія нарабіла ў працягу 10 гадовага панаваньня кампартыя.

---

У папярэднім сканфіскаваным нумары „Поклічу“ мы адзначылі, што адзінай партыяй, гдзе вернападаніцкае пачуцьце яе сяброў да Сталіна, не дазволіла апазіцыі выступіць — ёсьць Камуністычная Партыя Беларусі. Сьпяшымо „ачысьціць“ камуністычную партыю Беларусі ад гэтага закіду, паводле апошніх вестак там знайшлося аж 5 апазыцыянераў, якіх ЦК Беларусі шпарка выкінула з партыйнага складу.

---

*] Саўхоз—савецкія гаспадаркі—зямельныя камуны.

# Шляхам самаарганізацыі.

Благімі павадырамі аказаліся і Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Валошын і Мятла. Створаная імі арганізацыя пад найменьнем „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада“: сяньня ўжо распараджэньнем Міністра ўнутраных спраў Рэчыпаспалітай Польскай абвешчана нелегальнай. Хто будзе належаць да гэнае арганізацыі або прыймаць якое-небудзь учасьце ў яе дзейнасьці, як забароненай, будзе паацягнуты да судовай адказнасьці „z całą surowością prawa“. Тыя сотні гурткоў Б. С.-Р. Г., якія былі пазаклаланы ў ваяводзтвах Віленскім, Наваградзкім, Беластоцкім і Палескім — змушаны спыніць сваю дзейнасьць. Павадыры Б.С.-Р.Г. кінуты ў вастрог. Кіраўнікі гурткоў, прозьвішчы і адрасы якіх друкаваліся ў грамадаўскіх часопісах,—пастаўлены пад непасрэдны ўдар паліцыі. — Паўстае запытаньне: з якою мэтай зьмяшчаліся ў часопісах поўнасьцю адрасы і прозвішчы ўсіх кіраўнікоў правінцыяльных гурткоў Б. С.-Р. Г.? Няўжо яны ўзапраўды думалі, што даволі толькі напісаць у палітычнай-плятформе Б. С.-Р Г. аб тым, што яна, ідучы да сваіх мэтаў, будзе карыстацца шляхам лягальным і законнай барацьбы на аснове канстытуцыі і права, як ужо ніхто яе ня будзе чапаць, зможа зусім легальна разьвівацца, зьдзяйсьняць свае мэты і заданьні? Можа быць верылі а можа і не. Справа ёсьць цёмная і няясная, Пытаньне застаецца адкрытым. Як-бы там ня было, але крыкліва-рэклямная дзейнасьць Б. С.-Р. Г. спынілася жалюгоднай катастрофай. Уздойм рэвалюцыйнай актыўнасьці ў гушчы працоўных грамад. Зах. Беларусі, сагрэты майскім пераваротам у Варшаве, але пакіраваны ў неналежным напрамку праступнай дэмагогіяй і авантурніцкай тактыкай павадыроў Б. С.-Р. Г., на нейкі час ёсьць значна аслаблены.

Чаго дамагалася Б. С.-Р. Г.? — Перш за ўсё перабудаваньня істнуючага стану між дзяржавамі і народамі на аснове самаазначэньня народаў, ў духу міжна-роднай салідарнасьці працоўных грамад. Дзеля гэтага Б. С.-Р. Г. лічыць, што беларускія землі павінны быць злучаны і аб'еднаны ў незалежнай рэспубліцы, пад уладай сялян і работнікаў. А ў зямельным пытані — ўсе дворскія і духоўныя землі, лясы і воды павінны перайсьці на ўласьнасьць дзяржавы. Ведама— польскай, якая сама ўжо праз сялянскія камітэты падзеліць зямлю між мяйсцовымі сялянамі і парабкамі бязплатна. І гэта ўсё намагалася зьдзейсніць шляхам легальнай і законнай барацьбы на аснове канстытуцыі і права польскае рэспублікі. Падзівугодная недарэчнасьць!

Дзеля правідловага разуменьня і ацэнкі тактыкі Б. С.-Р. Г., ў кірунку зьдзейсьненьня права вольнага самаазначаньня працоўных грамад Зах. Беларусі, трэба зьвярнуцца да дзейнасьці Камуністычнае Партыі Зах. Беларусі і Камуністычнай Партыі Польшчы.

Да восені 1925 г. КПЗБ стаяла на грунце арганізацыі ўзброенага паўстаньня пад лёзунгам аддзяленьня Зах. Беларусі ад Польшчы і далучэньнея да Б.С.-Р.Г., спадзяючыся на падтрыманьне чырвонай арміі С.Р.С.Р, — У гэткай форме ўяўляла сабе КПЗБ зьдзейсьненьне права вольнага самаазначаньня працоўных грамад Зах. Беларусі.

Але з часу ветлівага спатканьня таварыша Чычэрына з панам Скшыньскім ў Варшаве, КПЗБ раптоўна і рашуча зьмяняе сваю тактыку,

На Трэцяй канфэрэнцыі КПЗБ тактыка узброенага паўстаньня і надзея на дапамогу чырвонай арміі С.Р.С.Р. засуджваецца як авантура. Замест арганізацыі ўзброенага паўстаньня прымаецца пастанова аб „увязцы“ беларускага рэвалюцыйна-вызвальнага руху на зах.-беларускіх землях у агульна-польскім рэвалюцыйна-пралетарскім руху, „авангардам“ якога зьяўляецца адзіная і цэнтралізаваная КПП. і авангардам авангарду ЦК. КПП.

Ў рэзалюцыях і пастановах чацьвёртай канфэрэнцыі КПП. ў засадзе прызнаецца істнуючы стан незалежнай польскай дзяржавы. Беларускі вызвальна — адраджэнскі рух разглядаецца як адзін з рэвалюцыйных чыньнікаў, які неабходна выкарыстаць дзеля збурэньня улады абшарнікаў і капіталістаў ды ўстанаўленьня дыктатуры пралетарыяту. — Маючы на ўвазе адсутнасьць непасьрэдняй рэвалюцыйнай сітуацыі“—поўна-ж адказ Чычэрына ў падтрыманьні з боку С. Р. С. Р. авантурыстычнага ўзброенага паўстаньня, што ў свой чарод было выклікана жаданьнем ураду С. Р. Р. С. ўстанавіць „дабрасуседзкія адносіны“ з Польшчай — прызнаецца патрэбным вясьці змаганьне за „частковыя дамаганьні сялян і работнікаў а ў тым ліку і за беларускую школу ды інш., ўважаючы, пры гэтым, што поўнае вызваленьне Зах. Беларусі і далучэньне да Б.С.Р.Р. магчыма толькі ў выніку пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы, якая мае быць зьдзейснена пад правадырствам КПП.

Аднак, новая тактыка КПЗБ — паступовае зьбіраньне рэвалюцыйных сілаў і арганізацыя работніцка-сялянскага блёку барацьбы за частковыя дамаганьні, — што ў засадзе ёсьць зусім правідлова, прывяла іх не да супрацоўніцтва з сацыялістамі, як гэтага вымагалі абставіны, а з тымі дзеячамі, якія нядаўна яшчэ былі пад сільным уплывам дробна-буржуазнага нацыяналізму і рознага роду згодніцкіх камбінацый*). З імі яны і устанавілі „работніцка-сялянскі блёк. — Гэтак паўстала да жыцьця Б.С.-Р.Г. і спрыязьненая з ёй НПХ. Пачалося злосная дэмагагічнае змаганьне ў легальнай „грамадаўскай“ прэсе супраць рэвалюцыйных соцыялістаў-народнікаў і марксыстаў, якія з усей рашучасьцю адкідаюць якія-б там ня было „згодніцкія камбінацыі“ з дзеячамі, групамі і партыямі, ня маючымі акрэсьльнай рэвалюцыйна-сацыялістычнай праграмы.

Паступеннае зьбіраньне рэвалюцыйных сілаў і ўзапраўдная арганізацыя сялянска-ратотніцкага блёку барацьбы за жыцьцёвыя патрэбнасьці можа адбыцца толькі выключна на грунце ясна акрэсьленай сацыяльна-класавай і нацыянальна-палітычнай праграмы.— КПЗБ і КПП гэтае праграмы ня маюць. Уся іх дзейнасьць ёсьць нешта іншае, як рэвалюцыйны авантурызм, спэкуляцыя на рэвалюцыйных настроях працоўных грамад. Імкнучыся да „пралетарскай“ рэвалюцыі ў Польшчы, яны праз ўвесь час „трымаюць нос па ветру“ — сваю „рэвалюцыйную тактыку узасадняюць міжнароднай палітыкай буржуазна-нэпаўскага ўраду

*) „Большевик“, орган ЦК КПЗБ. № 6.

С.Р.С.Р., вызваленьне Зах. Беларусі ставяць у залежнасьць ад згодніцкіх камбінацый" маскоўскіх нэпманаў з польскаю буржуазіяй.

Выступаючы з рэвалюцыйна-соцыялістычнымі поклічамі ў Польшчы і на заходня-беларускіх землях, камуністы-бальшавікі ўсё яшчэ прадаўжаюць чакаць таго спрыяючага часу. калі пры зьмененых абставінах чырвоная армія С.Р.С.Р, зможа прынесьці на канцы сваіх штыхоў вызваленьне прыгнечаным і паняволеным народам Рэчыпаспалітай Польскай. Яны ніяк ня могуць уцяміць той аснаўной засады рэвалюцыйнага соцыялізму, што рэвалюцыя ўзьнікае і адбываецца арганічна з нетраў працоўных грамад, а ня ў выніку якойбы там ня было вайсковай авантуры. — Гэтым, у значнай меры. тлумачыцца і той дэспатычны, камісарска-нэпаўскі рэжым, які сяньня пануе ў С.Р.С.Р. і Б. С. Р. Р.

Дык няўжо працоўныя грамады Заходн. Беларусі і Польшчы могуць жадаць тое, што сяньня істнуе ў Б С. Р. Р. і С. Р. С. Р., гэта значыць: дыктатура компартыі з усімі характэрнымі асаблівасьцямі, як пазбаўленьне волі самаарганізацыі і самадзейнасьці працоўных грамад, жорсткага бюракратычна-цэнтралістычнага камісарадзяржаўя, дзяржаўнага капіталізму ды інш.?

Не, працоўныя грамады гэтага жадаць ня могуць Іх ідэалам ёсьць сацыялізм, а ніколі дзяржаўны капіталізм!

Гэтак — у Зах. Беларусі, а што дзеіцца у Б. С. Р. Р. і ў той частцы Беларусі, якая непасрэдна далучана да Р. С. Ф. С. Р.?

І тут ёсьць розных масьцяў пяталізьнікі, ёсьць нудна-плаксівыя рамантыкі — „зьбянтэжаныя саўкі". — якія вераць у бальшавіцкую канстытуцыю С. Р. С. С., але ў гэтым прыпадку з партэтам Леніна. Яны з дня ў дзень паўтараюць: воля беларускага народу ўцелаішчана ў кам-партыі і зьдзейсьнена ў форме дыктатуры пралетарыяту.*) Альбо-ж гэта адпавядае рэчаістасьці? Брахня! Гэтым фантастычным заклінаньнем зьбянтэжаныя інтэлігенты намагаюцца супакоіць сваё сумленьне перад „страхамі жыцьця". Толькі! Асабіста для іх мо'тэта і добра, памагае. Але пры чым тут вызвальна-адраджэнскі рух беларускіх працоўных грамад? Успомнім нядаўны судовы працэс у Менску над рэвалюцыйнай групай сялянскае моладзі. Аб чым ён сьведчыць? Ці не аб тым, што ў гушчы працоўных грамад Б. С. Р. Р. істнуе ненавісьць да бальшавіцкага рэжыму? Ці не аб тым, што беларускі працоўны народ імкнецца чым хутчэй пазбавіцца дыктатуры кам-партыі і стварыць лад новага жыцьця ў вольнай і незалежнай Беларусі? — Камуністы самі змушаны былі прызнаць, што „Лістападаўшчына" тым і апасна для іх дыктатарскага рэжыму, што выяўляе настроі шырокіх масаў беларускага сялянства і працоўнай інтэлігэнцыі. З гэтага больш чым відавочна ўзапраўдная воля беларускага народу.

У Б. С. Р. Р., як і ў Зах. Беларусі, беларускі працоўны народ вядзе змаганьне з гнабіцелямі і эксплёататарамі за свае жыцьцёвыя патрэбнасьці; вядзе напружанае змаганьне за волю і незалежнасьць. Уся справа ў тым, што гэтае змаганьне ёсьць неарганізавана —істнуе рэвалюцыйны запал, шмат бунтарскай энэргіі, асабліва ў моладзі, але няма арганізаванасьці. Што рабіць? З чаго пачаць?

*) „Савецкая Беларусь", № 1940 з 27. ІІ. с. г.

За апошні час вельмі пашырана думка, што быццам-то беларуская палітыка апярэдзіла культуру. У гэтым выяўляецца разьмяжоўваньне працы палітычнай ад працы культурнай. Ці правідловае ёсьць гэта разьмяжаваньне? — Не, не-правідловае. Чаму? — А таму, што ня можа быць палітыкі без культуры і культуры без палітыкі. Праца палітычная ёсьць у той самы час культурная праца, як і наадварот — кожная праца культурная ёсьць у той самы час палітычная праца. Уся справа ў тым, якая мае быць беларуская палітычная праца, якая мае быць беларуская культурная праца.

Тое, што сяньня мы бачымо ў дзейнасьці розных беларускіх нацыянальна-палітычных арганізацый, групаў і групак — гэта нельга назваць палітычнаю працай. Палітыка вымагае праграмы, прадуманасьці і ўсьвядомленасьці мэтаў, заданьняў і спосабаў іх зьдзейсьненьня. Гэтага няма. Знача няма і палітыкі, а ёсьць толькі гутарка аб палітыцы, ці, інакш кажучы. палітыканства, гульня ў палітыку.

Гэтак сама і ў галіне культурнае працы. Ці мае якую небудзь праграму культурнае працы, скажам, Т-ва „Прасьвета"? — не, ня мае. А Т-ва „Беларускае Школы"? — Гэтак сама не мае. А „Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры" мае праграму культурна-гаспадарчае працы?—не, ня мае. А „Беларускае Навуковае Т-ва ў Вільні"? — Аб гэтым ня варта ўжо і пытацца. То як-жа тагды магчыма культурная, гаспадарчая і навуковая праца. Ёсьць гутарка аб працы, але ўзапраўднае працы няма. Інакш і быць ня можа. Бо кожная праца вымагае перш за ўсё пляновасьці, праграмы, а няма праграмы—няма пляновасьці. Статут зацьверджаны урадам, — гэта ня ёсьць яшчэ праграма, ня ёсьць плян працы.

Гэта-ж самае з усей аб'ектыўнасьцю можна сьцвердзіць і аб нядаўна ў Менску заснаваным „Т-ве Міжнароднай Культурнай Сувязі" ды з нязначнымі заценкамі аб „Інбелькульце" і г. д.

Без ясна акрэсьлянага пляну — мэтаў, заданьняў і спосабаў іх рэчаістага зьдзейсьненьня — ня можа быць ніякае ўжытэчнае працы. То будзе адна блытаніна, выпадковасьць, што, з вялікім сумам. і сьцвярджаемо.

Казаць аб патрэбе закладаньня беларускіх школаў, кааперэтываў, аб наладжаньні выдавецтва школьнай, навуковай літэратуры і краснага пісьменства — гэта ёсьць мала. Трэба ведаць як гэта ўцелаісьціць. Трэба мець плян працы, якіб паступенна, не зважаючы на істнуючыя вонкавыя абставіны, праводзіўся ў жыцьцё. Нельга не клапаціцца і аб зьмесьце школьнай ды іншай літэратуры, а не зьвяртаць галоўную ўвагу — абы толькі ў беларускай мове. Беларуская школа мае адрозьнівацца ад польскай ці то рускай ня толькі мовай выкладаньня, а ўсёй сыстэмай выхаваньня, унутраным укладам свайго жыцьця. У гэтым мае выяўляцца самаістая беларуская нацыянальная індывідуальнасьць.

Гэтак мае быць у галіне беларускай культуры. Ня іначай ў галіне гаспадарчай і палітычнай. Ува ўсім мае з усей яскравасьцю выяўляцца беларуская індывідуальнасьць. Бо у чым іншым і палягае аснаўны сэнс беларускага вызвальна-адраджэнскага руху, як ня ў тым, каб усебакова і поўнасьцю была выяўлена беларуская асабістая і калектыўная індывідуальнасьць. А што гэта ёсьць, як не палітыка? Так, гэта ёсьць

палітыка. Гэта ёсьць уменьне ў кожнай нават дробнай працы выяўляць сябе, сваю асабістасьць, каб ня быць бяздушнаю прыладай ў чыхсьці руках, зьдзяйсьняючы чужую, не беларускую палітыку.

Архітэктар, які прыступае да будовы хаты, перш за ўсё павінен мець плян, ў якім ўсё прадбачана, разьмяркавана. Мы, беларусі, прыступілі да будовы беларускае культуры і гаспадаркі. Гэта ёсьць больш складное пытаньне, чымся будова хаты. Тым больш складное, што перад намі стаіць вялікая мэта — будаваньне незалежнай беларускай дзяржавы. Кожны беларускі інтэлігэнт, сялянін і работнік мае быць сьвядомым архітэктарам гэтага вялікагага будаўніцтва.

Вось-жа, маючы ўсё гэта на ўвазе, працоўным грамадам Беларусі ёсьць над чым прызадумацца, каб выбраць шлях свайго вызваленьня і адраджэньня. Гэты шлях, адзіна правідловы шлях — самаарганізацыя гаспадарская, культурная і палітычная на грунце ясна акрэсьленнай праграмы. Мо' і цяжкі гэта ёсьць шлях, але ён чэсны і праўдзівы.

Адзіным выхадам з таго ідэйнага тупіку ў якім апынулася беларуская вызвальна адраджэнская думка, з таго маральнага раскладу, які ў апошні час, нібы тая пошасьць, гэтак пашырыўся на беларускіх землях сярод рэзных угрупаваньняў, зьяўляецца аб'еднаньне і актыўная праца ўсіх сацыялістычных сілаў краю, на падставе клясавага змаганьня з буржуазна-капіталістычным панаваньнем, за злучэньне, вольнасьць і незалежнасьць беларускага народу. Т—ш.

# Дэклярацыя ініцыятыўнае групы Соцыял. Лігі Новага Ўсходу.

## Да працоўных усіх нацыяў.

Сусьветная вайна з яе канавымі вынікамі, якія сваім галоўным цягарам ляглі на працоўнае чалавецтва, была крызісам буржуазнае цывілізацыі, з прытомным ёй падзелам на пануючыя і паднявоненыя клясы і нацыі і з яе заразьлівай хваробай нацыяналістычнага імпэрыялізму.

Вялікая Усходня-Эўрапэйская рэвалюцыя, з яе бесьпасярэднымі адгалоскамі ў пераможаных краёх Цэнтральнае Эўропы, а таксама ўва ўсім вялізарным сьвеце Усходу, у першы раз ускалыхнулі да асновы гэты парадак клясовага і нацыянальнага панаваньня.

Але ні вайна, ні мірныя дагоды, ні рэвалюцыйныя землятрасеньні не адстыралі глыбачайшых прычынаў крызісу: за пыгожым фасадам праўнае арганізацыі чалавецтва ў Лігі Нацыяў, Вэрсальская дагода хавала фактычнае панаваньне над сьвётам пераможцы Антанты; а зыйшоўшая з гістарычных рэльсаў рэвалюцыя Усходняе Эўропы заснавала ў ёй рэжым партыйнае бальшавіцкае дыктатуры, гэтак-сама дэспотычнае ўнутры, як агрэсыўна імпэрыялістычнае вонкава.

Олігархічным перакручваньнем, сыстэмаю закулісных камбінацыяў і пасыўнасьцю Лігі Нацыяў, новыя гаспадары буржуазнага сьвету жорстка насьмяваліся над лятуценьнямі змучанага і абяскроўленага сусьветным зьбіцьцём чалавецтва, аб спыненьні на заўсёды ўсялякіх войнаў, аб пазбаўленьні ад цягараў мілітарызму, аб замене ў міжнародных адносінах рэжыму сваволья рэжымам права.

Пасьлярэвалюцыйныя спадкабернікі крэмлеўскага трону рускіх цароў гэтак-жа жорстка насьмяваліся над лятуценьнямі прыгнечаных працоўных масаў аб панаваньні рэчаістнае свабоды, соцыялістычна-працоўнае дэмократыі і вызваленьня асабістасьці.

І як перад сусьветнай вайной, чалавецтва, ўсё больш запутваецца ў сеці новае вялізарнае сваркі—ў гэты раз паміж залатым імпэрыялізмам капіталу і чырвоным імпэрыялізмам Крэмля — сваркі, якая пагражае новымі патрасэньнямі.

Чырвоны імпэрыялізм Крэмля, у ліхаманачнай пагоні за хаўруснікамі, пасьпяшае выклікаць паўстаньне колёніяльных і паўколёніяльных народаў і краінаў Азіі і Афрыкі проціў іх эўрапэйскіх мэтраполіяў, якія павінны быць адначасна ўзорваны знутры элемэнтамі сусьветнага бальшавізму. На нарадзіны і ўзрост сусьветнага бальшавізму буржуазна імпэрыялістычны сьвет конвульсыўна адказвае нарадзінамі і ўзростам сусьветнага фашызму.

На заклік да паўстаньня сваіх колёніяльных рабоў буржуазна-капіталістычны сьвет адказвае альбо аружным умяшаньнем, альбо „санітарнымі кардонамі“, альбо фінансавай блёкадай Сав. саюзу, альбо заклікам часткаў яго да аружных спробаў адарваньня ад цэлага.

Гістарычны шлях шмат цярпеўшага чалавецтва ўвесь час ідзе паміж Сцыльляй і Харыбдай.

Сцыльляй залатога імпэрыялізму Капіталу і Харыбдай чырвонага імпэрыялізму Крэмля.

Сцыльляй сусьветнага бальшавізму і Харыбдай сусьветнага фашызму.

Прайсьці па хрыбце, не скаціўшыся ні ў адную з абодвых бакоў прорваў, знайсьці выхад з гістарычнага тупіку, ня выклікаўшы новае сусьветнае катастрофы,—вось аснаўная гістарычная праблема, новае „заданьне сфінксу“, патрабуючая свайго вырашэньня.

І дзеля гэтага патрэбна паўстаньне т р э ц я е сілы.

На Заходзе і ў цэнтры Эўропы арганічны ўзрост соцыялізму і дэмакратыі ўжо цяпер зьяўляецца ў кожным выпадку ўстрымліваючым пачаткам, змушаючым нават консэрватыўнейшыя з урадаў устрымліваць авантурныя імкненьні фашыстаўска-імпэрыялістычнага крыла буржуазіі; паступова, але пэўна блёк пераможцаў сусьветнае вайны разсасваецца ў больш шырокай міжнароднай средзе, куды на роўных з імі правох пранікаюць былыя пабітая; патрэба эканамічнае адбудовы Эўропы пхае да цеснага гаспадарчага і фінансавага супрацоўніцтва; і хаця буржуазія,

адбіўшыся ад першага пасьляваеннага націску пролетарыяту, пасьпела бадай усюды адціснуць яго на абароныя пазіцыі, сама перайшла ў наступленьне процiў „заваёваў рэвалюцыі", аднак у важнейшых краёх Эўропы робіцца ўсё цяжэй кіраваць бяз вучасьця соцыялістаў, а тым болей процiў іх; Урады соцыялістычнае меншасьці — прадвесьнікі будучых урадаў соцыялістычнае большасьці ня выходзяць з палітычнае арэны. Ня ў відзе простае ўсхадзяшчае лініі, але ў відзе ламанае лініі, перамежаемай патугамі рэакцыі, у хваробах і частковых крызісах нараджаецца новая Эўропа, са стабілізацыяй здаровых міжнародных узаемных адносінаў.

Ключ да аканечнае стабілізацыі гэтага працэсу і да закрапленьня яго на Усходзе Эўропы.

Без стабілізацыі міжнародных адносінаў на Усходзе Эўропы — няма агульнае стабілізацыі сьвету.

Падобна таму, як дзеля нікчэмнага Сараеўскага інцыдэнту ўзьняўся калісь найвялізарнейшы ў гісторыі сусьветны пажар, гэтак сама цяпер, у атмасфэры агульнае пасьляваеннае неастоістасьці і яшчэ неакрэпшае стабілізацыі, першы, лепшы аружны конфлікт на Усходзе Эўропы можа апынiцца вірам, няўстрымліма ўцягаючым у сваю злавесную лейку, аднаго за адным, спачатку бліжэйшых, пазьней далейшых, і ўрэшце зусім далёкіх суседзяў. Але каму-ж не ясна, што гэткі паварот падзеяў азначаў-бы зрыў усіх высілкаў чалавецтва залячыць раны, нанесеныя сусьветнай вайной, і адбудаваць ў новай бліскучасьці сусьсьветную гаспадарку і культуру сярод пакінутых вайной руінаў і магілкаў.

На соцыялістаў Усходу Эўропы гісторыя кладзе дзеля гэтага абавязак, значэньне якога шырэйшае ад усялякага чыста хатняга заданьня, і ставарае іх асаблівую адказнасьць ня толькі перад працоўным народам іх краёў, але і перад усім чалавецтвам.

Не палітыкі роспачы і авантурызму, ня стаўкі на новую сусьветную вайну, не орыентацыі на той ці іншы з будучых змагаючыхся станаў, не несьвядомае правакацыі вайны, і зварочваньня да чужаземнае аружнае інтэрвэнцыі патрэбуе яно ад іх, —

але зжываньня і ліквідацыі бальшавіцкага рэжыму ўласнымі сіламі падуладных яму народаў, што магчыма толькі пры адзінным фронце соцыялістычных і далучыўшыхся да іх сілаў гэтых народаў.

Стварэньне такога адзінага фронту — вось катэгорычны загад гісторыі!

Яно дыктуецца ўсім палажэньнем шматлікіх нацыянальнасьцяў, жывучых на тэрыторыях Радавае Сувязі.

Згодна з літэрай Радавае конституцыі незалежныя, наўстыч да права, пры жаданьні, свабоднага выхаду з сувязі, — яны ў рэчаістасьці, партыйнай лініяй, зьвязаны жалезным ланцугам цэнтралізованае дыктатуры гэтак жа цэнтралістычна кіруемае партыі.

Усе прыдуманыя бальшавіцкай улады звароты з „украінізацыяй", „беларусізацыяй" і г. д. зьяўляюцца нічым іншым, як маскаваньнем процi народнае сутнасьці гэтае ўлады, дэмагагічна заігрываючы з узрастаючай нацыянальнай сьвядомасьцю народаў, замест таго, каб даць дарогу іх незалежнаму і свабоднаму дэмакратычнаму самаазначэньню.

Усе прыдуманыя бальшавіцкай уладай баявыя лёзунгі і формулы—соцыялістычнае будаўніцтва, пляновая гаспадарка. камунізм — разам з паказнымі мерамі наскоку на „прыватнікаў" зьяўляюцца нічым іншым, як спосабам дэмагагічнага заігрываньня з клясовым пачуцьцём пролетарыяту і маскаваньнем непаўскага эканамічнага рэжыму, — гэтага асаблівага партыйна-бюрократычнага дзяржаўнага капіталізму.

Бальшавіцкая ўлада зьяўляецца, гэткім чынам, нічым іншым, як арганізованай сыстэмай прыгнечаньня ўсіх народаў, не выключна і рускага, прыгнечаньня так соцыяльнага, як і нацыянальнага, што вымагае ў барацьбе процiў яе арганічнае злучнасьці барацьбы за нацыянальныя правы з барацьбой за правы соцыяльна-працоўныя.

Гэтая сьвядомасьць і пабудзіла цэлы рад прадстаўнікоў розных адценкаў соцыялістычнае думкі, належачых да розных нацыянальнасьцяў і партыяў, жывучых і маючых дзейнасьць на тэрыторыі Радавае Сувязі, залажыць ініцыятыўную групу дзеля арганізацыі, на пэрсанальных асновах, Соцыялістычнае Лігі Новага Усходу; — Лігі, мэта якой — шуканьне мірнага выхаду дзеля вырашэньня нацыянальнае праблемы і стварэньне агульнага, усенацыянальнага і соцыялістычнага блёку, дзеля такога зжываньня бальшавіцкае дыктатуры, каб была выключана небясьпека замены яе не толькі шчырай соцыяльна-палітычнай рэакцыяй аднаўленага характару, але і якім-небудзь модэрнізаванымі і замаскованымі яе формамі, кшталтам асаблівага бонапартызму або фашызму.

У імя захаваньня здабычаў вялікае рэвалюцыі, якая не скончана, якая прадаўжаецца — мы процiў бальшавіцкага яе перакручваньня; вось чаму мы процiў усялякае аднаўленасьці, але за грунтоўную рэарганізацыю сучаснага парадку Радавай Сувязі на асновах дэмократыі, соцыялізму і права народаў на самаазначэньне.

Мы процiў усялякіх „орыентацыяў" на чужацкія аружныя сілы, процiў стаўкі на іх інтэрвэнцыю, — мы арыентуемся толькі на ўнутраныя сілы скаваных бальшавіцкай дыктатурай нацыяў: на сілы іх працоўных масаў.

Мы процiў усялякага прыгнечаньня адных народаў другімі. Мы выходзім з бязумоўнага прызнаньня за кежным народам поўнага права на яго самастойнасьць, ад усіх незалежную дзяржаву, арганізованую ў яго натуральна-этнаграфічных межах. Гарантыяй міру і цеснага супрацоўніцтва паміж гэтымі народамі мы лічым стварэньне імі на дагодных асновах Вольнае Сувязі, як наддзяржаўнага аб'яднаньня, на асновах тарыфна-мытнае сувязі узаемнае гарантыі межаў і нацменшасьцяў і салідарызацыі міжнароднай палітыкі, як бліжэйшы этап у кірунку стварэньня Злучаных Штатаў Эўропы, а ў канцы і ўсяго Сьвету.

Мы чакаем ад працоўных масаў—работнікаў,

сялян, інтэлігэнтага пролетарыяту — і ад соцыялістычных партыяў Радавае Сувязі, запраўднага водгуку на лёзунгі Лігі: аб'яднаньня высілкаў; пляновага наступленьня на пазіцыі бальшавікоў; ухутчэньня, перамагаючай сілай нашых лёзунгаў, пашыраючагася ў іх радох расчараваньня і раскладу; адваяваньня ў яго пазіцыі за пазіцыяй наўстыч да поўнае ліквідацыі дыктатарска-тэрорыстычнага рэжыму. Мы напамінаем ім, што зарука перамогі — ў поўнасьці ўзаемнае давернасьці і ўзаемнага прызнаньня замацованых зусім конкрэтнай дагодай аб будўчых узаемаадносінах асвабоджаных народаў на Новым Усходзе. Падгатаваць такую дагоду — важнейшае з заданьняў Лігі.

Мы чакаем ад пролетарыяту Эўропы, ад яго социялістычных партыяў, сындыкатаў і іх міжнародных аб'яднаньняў—маральнага і палітычнага падтрыманьня ў нашай барацьбе, пад лёзунгамі:

Салідарна і рашуча — проціў белага і чырвонага імпэрыялізму!

Няхай жыве асвабаджэньне прыгнечаных клясаў і народаў!

Няхай жывуць свабодныя і незалежныя рэспублікі — Расея, Украіна, Беларусь, Грузія, Арменія, Узьбекістан, Туркменістан і інш.—і няхай жыве іх свабодная Сувязь!

Няхай жыве аб'яднаньне сілай падзеленых нацыяў!

Няхай жыве на гэтых асновах адраджоны Новы Усход-хаўрусьнік нараджаючыйся Новае Эўропы!

Няхай жыве міжнародны социялізм!

**Ініцыятыўная група**
**Социялістычнае Лігі Новага Усходу.**

**Сябры партыі Соц.-Рэв. (Расея):**
*В. Чэрноў, В. Гурэвіч, Гр. Шрэйдэр, Ф. Мансьветаў, Аўг. Шрэйдэр.*

**Сябры ўкраін. пар. соц.-рэв. (Украіна):**
*М. Шапавал, Н. Грыгор'еў, М. Мандрыка, С. Доўгаль, Б. Залеўскі.*

**Сябры белар. пар. Соц.-Рэв. (Беларусь):**
*Т. Грыб. М. Чарнецкі.*

**Сябры белар. пар. Соц.-Фэдэр. (Беларусь):**
*Б. Захарка, П. Крэчэўскі.*

**Сябры армян. рэв. пар. Дашнакцюцюн (Арменія):**
*Н. Нікагаеьян, О. Аккінян.*

---

## Ад Часовага Сэкрэтарыяту Лігі.

Часовы Сэкрэтарыят паведамляе, што да часу фармальнага зарганізаваньня Лігі ён працуе як яе выканаўчы орган, дае падрабязную інформацыю аб працы Ініцыятыўнае Групы і прыймае заявы ад асобаў, жадаючых уступіць ў сябры Лігі. У лік апошніх прыймаюцца таварышы ўсіх нацыянальнасьцяў, якія стаяць на плятформе Лігі, што не выключае для іх магчымасьці ўнесьці свае папраўкі і запярэчаньні да гэтага праэкту ў далейшых працах Лігі, якія будуць весьціся, як на агульных сходах яе аддзелаў—гэтак і ў асобных камісіях і нацыянальных сэкцыях пры Лізе. Аддзелы ў рожных гарадох і краёх будуць адчыняцца ў меру рэгістрацыі сэкрэтарыятам ў данае месцовасьці аднэснае колькасьці сяброў па магчымасьці рожных нацыянальнасьцяў. Згодна з асноўнымі тэзамі арганізацыйнага статуту, прынятага агульным сходам Ініцыятыўнае Групы, цэнтральнымі органамі Лігі ў будучыне предугледжаны З'езд Дэлегатаў, Выканаўчы камітэт, Сэкрэтарыят і Рада Нацыяльных Сэкцыяў, а на мясцох — агульные сходы Аддзелаў і месцовыя камітэты. Часова, да першага З'езду прадстаўнікоў Аддзелаў, цэнтр Лігі знайходзіцца ў Празе, а функцыі Цэнтральнага Органу выконваюцца Пражскай Ініцыятыўнай Групай. Будова Лігі па пэрсональнаму прынцыпу, не выключае магчымасьці ўваходжаньня ў яе склад цэлых палітычных групаў і арганізацыяў, маючых магчымасьць выяўляць сабе і колектыўна ў адносных сэкцыях.

Па ўсім пытаньням, датычна Лігі, просімо зварачвацца да ніжэйпаданых сяброў Часовага Сэкрэтарыяту:

Оганес Аккінян, Praha, Smichov, Malrazinky č. 1666.
Н. Грыгор'еў, Praha II, Královska 10.
Тамаш Грыб, Radotin u Prahy, 266.
Вісарыён Гурэвіч, Praha II, Wenzigova ul. 17.

---

# Фашызм у Літве.

Вось ужо хутка год, як у Літве пануе фашызм. Фашызм гэта ёсьць дыктатура абшарнікаў капіталістаў і кулакоў.

У Літве фашысты ўзялі ўладу ў сьнежні 1926 г. Узялі яе лёгка і хутка пры помачы афіцэраў. У адну ноч быў разагнаны Сойм, арыштаваны прэзыдент і міністры. Уладу ўзялі Сьметона і Вальдемарас.

Фашыстам удалося гэтак лёгка зрабіць пераварот таму, што працоўныя масы Літвы былі незарганізаваны. А незарганізаванымі былі таму, што з самага пачатку незалежнасьці Літвы ўладу трымала ў сваіх руках галоўным чынам хрышчоная дэмакратыя (хадэкі), якая гэтак сама прыгнятала работнікаў і сялян, як і цар да вайны. Калі-ж пасьля выбараў у Сойм у траўні 1926 г. замест хадэцкае ўлады паўстала гэтак званая дэмакратычная ўлада, якая складалася з прадстаўнікоў соц-дэмакратаў і сялянскае партыі дык гэтая ўлада, каб дагадзіць буржуазіі не давала працоўным свабоды слова, арганізацыі, забастовак і г. д. Хаця ўлада і называла сабе дэмакратычнай, аднак яна саджала ў вастрогі социялістаў-рэвалюцыянераў максімалістаў, зачыняла іх газэты, адмаўлялася прызнаць іх легальна, пры помачы паліцыі разганяла бастуючых работнікаў, не скасоўвала цяжкіх налогаў, ад якіх ня мела жыцьця сялянства і г. д. У гэты самы час фашысты карысталіся поўнай свабодай: выдавалі газэты, склікалі сходы і з'езды.

Яны зусім адкрыта арганізаваліся ў урадовых установах і арміі. Дэмакратычная ўлада не праганяла іх з дзяржаўнае службы, у паліцыі, і арміі, ня глядзячы на тое, што сяляне і работнікі трэбавалі гэтага.

Фашысты карысталіся з свабоды, каб прагнаць сац.-дэмакратычную і сельсаюзную ўладу і ўстанавіць сваю дыктатуру. Гэтак, дзякуючы здрадніцтву правадыроў сац. дэмакратаў і сялянскай партыі сяляне і работнікі Літвы стогнуць цяпер пад уладай фашыстаў.

Зямельная рэформа спынена, зямля звяртаецца абшарнікам, налогі на сялян павялічаны, безрабоцьце нават летам не спыняецца, безработныя не атрымоўваюць ніякае помачы, заробкі і дагэтуль жабрацкія паменшыліся, працоўныя не маюць нікакіх свабодаў, прафсаюзы зачынены, вастрогі перапоўнены работнікамі, сялянамі і соцыялістамі, толькі абшарнікі, фашысты і кулакі могуць рабіць што хочуць і ніякае патрэбы ня ведаюць.

———

Ясна, што працоўныя не дабравольна нясуць фашыстаўскае ярмо. Яны ўсімі спосабамі змагаюцца з фашыстамі. Гэтак 9 верасьня с. г. у Таўрогах узьнялося аружнае паўстаньне. Сяляне і работнікі ўзяліся за аружжа і разагналі фашыстаўскую ўладу. На жаль, паўстаньне гэтае не магло распаўсюджывацца на ўсю Літву. Фашыстам удалося яго стлуміць і яны крывава расправіліся з паўстанцамі. Шмат паўстанцаў было растрэляна, шмат засуджана на дажыцьцёвую катаргу. Некаторым з вучасьнікаў гэтага паўстаньня удалося ўцячы ў суседнія дзяржавы. Гэтак з'явіліся палітычныя эмігранты ў Нямеччыне, Латвіі і ў Польшчы.

Частка эмігрантаў пад правадырствам соц.-дэмакрата Плечкайтіса, карыстаючыся прыхільнымі адносінамі польскае ўлады распачала сваю дзейнасьць у Вільні. Выдаюць тут сваю газэту, склікаюць сходы, склікалі ў Рызе з'езд і г. д. Другая частка эмігрантаў, асабліва соцыялісты-рэвалюцыянэры максімалісты, ганяць соц-дэмакратаў за тое, што ўсю сваю працу сканцэнтравалі ў Польшчы, таму што гэтым яны даюць повад літоўскім фашыстам крычаці аб тым, што соцыялісты прадаліся палякам, пры помачы польскіх войскаў зьбіраюцца захапіць Коўню і гэткім чынам пугаюць менш сьвядомае літоўскае насельніцтва польскай небясьпекай. На жаль гэтыя крыкі маюць пасьпех. Гэтак у апошнія часы хадэцыя і сялянская партыя хочуць зрабіць з фашыстамі хаўрус каб стварыць супольны ўрад. Калі б гэтыя весткі былі праўдзівыя дык фашыстаўская ўлада узмацнілася б; барацьба з ёй зробіцца цяжэйшай.

Але гэта не спыніць барацьбы працоўнае масы, ў першых радох якой знаходзяцца соцыялісты-рэвалюцыянэры максімалісты.

**Ф. Солтан.**

# ХРОНІКА.

— У адным з апошніх нумароў „Утра" зьмешчаны ліст з Прагі нейкага Вячеслава Менцеля, у якім апошні ў фэльетонны спосаб дае „справаздачу" аб устаноўчым сходзе Соцыялістычнай Лігі Новага Усходу. Дзеля таго, што фактычнае крытыкі праграмы ці дзейнасьці ў гэтай справаздачы няма, а ёсьць толькі ардынарная брахня засумаваўшага па камэргэрскіх нагавіцах маскоўскага эмігранта, мы ў дыскусію, зразумела, ня ўступім. Ад'значаем толькі, што падобныя „справаздачы" з'явіліся у большасьці эміграцкіх часопісаў „чорнага" напрамку, а гэта сьведчыць, што думкі аб „едзінай і недзялімай" не даюць спакойна спаць быўшым „віц-мундзірам".

Нічога ня забыліся — нічога ня навучыліся

Адначасна даводзім да ведама ўсіх нашых таварышоў, што фактычную справаздачу аб дзейнасьці Соц. Лігі Новага Усходу будзем зьмяшчаць і далей у нашым партыйным органе.

# У Б. С. Р. Р.

**Новы склад ІБК.** На паседжаньні прэзыдыуму 15 лістапада зацьверджаны новы склад І Б К. У склад аддзелу гуманітарнага ўвайшлі: старшыня Некрашэвіч, намесьнік Ясінскі, сябрамі: Ігнатоўскі, Лёсік, праф. Замоцін, праф. Пічэта, Ластоўскі, Міцкевіч (Якуб Колас), Луцевіч (Янка Купала), Жылуновіч (Цішка Гартны), праф. Матулайціс, праф. Эпімах-Шыпіла, праф. Бузук, Друшчыц, А. Цьвікевіч і Я. Дыла. У склад савету аддзелу прыроды і гаспадаркі ўвайшлі: старшыня А. Смоліч, намесьнік докт. Трамповіч, сябры— праф. Блюдуха, праф. Афанасяў, праф. Адамаў, Вяршук, праф. Фядушын, праф. Ленц і Кісьлякоў.

**2 выпуск Б. Д. У.** 17 кастрычніка адбыўся 2 выпуск Мэдфак Бел. Дзярж. Унів., які даў 163 новых дактароў.

**Насельніцтва Менску** складаецца з наступных нацыянальных груп: беларусаў—42,4%, жыдоў—40,8%, палякоў—3,4%, расійцоў—9,6%, латышоў—0,2%, літоўцаў—0,4%, татар 1%, і інш. 2,1%.

# З жыцьця правінцыі.

Зьезд радных беларусаў Баранавіцкага павету адбыўся ў нядзелю 27-га лістапад с. г. у Баранавічах. Выслухаўшы даклады з мейсц, у якіх сяляне радныя скардзіліся на цяжкае эканамічнае становішча вёскі, вызванае зямельным голадам і безрабоцьцем, з'езд прыняў некалькі рэзалюцыяў соцыяльнага, гаспадарскага і асьветнага характару; як напр.: дамагацца надзяленьня сялян зямлёй, скасаваньня асадніцтва, удзяленьня сялянам дапамогі і пажычак дзеля падняцьця культурнага стану іх гаспадарак і г. д.

Апрача таго на агульную прапазыку радных была вынесена рэзалюцыя-пратэст проціў самазванага „зьезду", скліканага Паўлюкевічам ў Вільні дн. 6—7 лістапада.

Выд. ЯЗЭП МАМОНЬКА Друкарня Я. Лєвіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Рэдактар: ГРЫДЗЮШКА